*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2017, № 11(21). Лістапад

## Прынц Баварыі на Слонімшчыне, 1916 год



Падчас Першай сусветнай вайны ў верасні 1915 года кайзераўскія салдаты ўвайшлі ў Слонім. На працягу 40 месяцаў наш горад знаходзіўся пад нямецкай акупацыяй. У Слоніме дыслацыраваліся падраздзяленні 9-й арміі. Яе штаб знаходзіўся ў палацы Пуслоўскіх у Альбярціне.

*Працяг на ст. 3.*

## Як у верасні 1939-га слонімская паліцыя лавіла "нямецкага дыверсанта"

Гэтая таямнічая гісторыя адбылася на пачатку Другой сусветнай вайны. У першыя тыдні верасня 1939 года Слонімшчына яшчэ была пад польскай уладай. Нашыя землякі ў складзе польскага войска ўдзельнічалі ў абарончых баях з нямецкім агрэсарам. Слонім апынуўся ў глыбокім тыле, у горадзе заставаліся толькі нязначныя падраздзяленні 79-га і 80-га пяхотных палкоў, але актыўна праходзіла падрыхтоўка рэзервістаў.

Падрабязна пра тыя падзеі напісаў у сваіх успамінах капітан Адам Ярасіньскі, які 2 верасня прыехаў з Вільні ў Слонім і якраз займаўся з рэзервістамі. Згадаў ён і пра "таямнічы выпадак на мосце праз Шчару". На аўтамабілі праз яго ехаў з Брэста палкоўнік Тжаска-Дурскі. Ён не пачуў каманды варты і быў застрэлены. Ярасіньскі чуў, што забіты аказаўся нямецкім шпіёнам. Нібыта, прызнаўся ў гэтым, калі паміраў. "Сцвярджаю, што нейкую страляніну, у выніку якой быў забіты палкоўнік, я чуў, але самога здарэння не бачыў", — піша капітан.

Ці сапраўды ў Слоніме адбылося такое здарэнне? Пры вывучэнні матэрыялаў па тэме высветлілася, што ва ўспамінах Адама Ярасіньскага хапае недакладнасцяў. Стральба на мосце праз Шчару сапраўды была, але палкоўнік Тжаска-Дурскі быў забіты не ў нашым горадзе. Пра яго, дарэчы, у разнастайных польскіх даведніках вельмі мала інфармацыі.

*Працяг на ст. 6.*

# У Косаўскім палацы адкрылі экспазіцыю для турыстаў

10 лістапада ў Косаўскім палацы ўрачыста адкрылі экспазіцыю для турыстаў. Падкрэсліваецца, што яна часовая, у такім выглядзе будзе існаваць у бліжэйшыя гады (да заканчэння рэканструкцыі). У пяці залах можна азнаёміцца з матэрыяламі пра Косава, пра графаў Пуслоўскіх, якія валодалі палацам да Другой сусветнай вайны. Там прадстаўлены экспанаты, якія знайшлі падчас раскопак і ў жыхароў Косава. У адным з залаў будуць экспанавацца карціны.

Як інфармуе БЕЛТА, рэканструкцыя Косаўскага палацава-паркавага ансамбля, распачатая ў 2008-м, мусіць скончыцца да 2023 года. Пакуль яна зробленая на чвэрць. Для далейшай працы (на чарзе — інтэр'еры, інжынерныя сеткі) неабходныя “дастаткова сур'ёзныя сродкі”. У палацы яшчэ няма ацяплення, яго плануюць зрабіць у наступным годзе, калі дзяржава накіруе на рэканструкцыю 2 млн рублёў (ужо патрачана каля 4 млн рублёў). Паралельна добраўпарадкуюць парк.

Мяркуецца, што Косаўскі палац стане вельмі перспектыўным турыстычным аб'ектам. Побач — дом-музей Тадэвуша Касцюшкі. Асноўную частку плошчаў пасля рэстаўрацыі будуць здаваць у арэнду. Там могуць з'явіцца гасцініца, кавярня, рэстаран, разнастайныя крамы. Мясцовыя ўлады вельмі спадзяюцца, што аб'ект з часам будзе прыносіць прыбытак.

Дарэчы, плануецца, што Косаўскі палац, Мірскі, Нясвіжскі замкі, Ружанскі палац могуць аб'яднаць у адзін турыстычны маршрут. І тады жадаючых наведаць палац, пабудаваны ў Слонімскім павеце ў XIX стагоддзі, стане значна больш. А пакуль Міністэрства культуры будзе вырашаць пытанне наконт таго, каб узбагаціць экспазіцыю ў Косаўскім палацы новымі экспанатамі. Магчыма, іх перададуць з музейнага фонду Беларусі ці з іншых музеяў на часовае захаванне.

●*СЁ*










***Фота: БЕЛТА***

# Прынц Баварыі на Слонімшчыне, 1916 год

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

У 1916 годзе Слонім і Альбярцін наведаў прынц Баварыі Леапольд фон Вітэльсбах (1846 — 1930). Ён быў вайскоўцам, служыў з 15-гадовага ўзросту. У складзе артылерыйскага палка ўдзельнічаў у аўстра-прускай і франка-прускай войнах, меў узнагароды. Прайшоў шлях ад камандзіра артылерыйскай батарэі да камандзіра палка, брыгады, дывізіі, а пасля і баварскага армейскага корпусу. Перад выхадам у адстаўку ў 1913 годзе быў генерал-фельдмаршалам, інспектаваў войскі.

Аднак вясной 1915-га прынцу Леапольду ў 69 гадоў давялося вярнуцца на вайсковую службу. Ішла Першая сусветная вайна, Германія і Аўстра-Венгрыя на Усходнім фронце ваявалі супраць Расійскай імперыі. Генерал-фельдмаршал камандаваў 9-й арміяй, якая спачатку вяла пасяховыя баі ў Польшчы, а пасля ўвайшла на тэрыторыю Беларусі. На працягу лета 1915-га рускія войскі адступалі і фронт хутка дакаціўся да Слоніма. У верасні горад быў акупаваны.

У 1916 годзе прынц Леапольд наведаў Слонім і Альбярцін. Тут ён правёў некалькі штабных паседжанняў з генераламі штаба 9-й арміі ў Альбярціне*, наведаў усе ваенныя аб'екты і пазнаёміўся з ваенным бытам вайскоўцаў. А потым на цягніку выехаў на захад. Паколькі ён удала камандаваў дзеяннямі 9-й арміі, не дзіўна, што ў жніўні 1916-га менавіта яго прызначылі на пасаду камандуючага Усходняга фронту. Пасля гэтага прынц Леапольд Баварскі са сваім штабам знаходзіўся ў Скоках у Брэсцкім раёне, заняў там сядзібу Нямцэвічаў.



Prinz Leopold von Bayern.

Чытачам "Слонімскага краю" прапаную некалькі здымкаў, на якіх адлюстраваны візіт прынца Баварыі Леапольда фон Вітэльсбаха на Слонімшчыну. На здымках добра бачны палац Пуслоўскіх 100 гадоў таму, а таксама вуліцы і будынкі Слоніма, дзе пабываў госць. Усе фотаздымкі друкуюцца ўпершыню.

●***Сяргей Чыгрын***

**У кнізе "Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў…" (Слонім, 2002. С. 145) можна прачытаць, што ў Альбярціне быў штаб камандуючага Усходнім фронтам германскай арміі генерала Войрша. Насамрэч, генерал-фельдмаршал Марцін Вільгельм Рэмус фон Войрш (1847 — 1920) падчас Першай сусветнай вайны камандаваў ландверным корпусам, пазней — армейскай групай "Войрш". Камандуючым Усходняга фронту з 1914-га быў генерал-фельдмаршал Гіндэнбург. — "СК".*

# Прынц Баварыі на Слонімшчыне, 1916 год













# Як у верасні 1939-га слонімская паліцыя лавіла "нямецкага дыверсанта"

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Зыгмунт Дурскі (Тжаска-Дурскі) нарадзіўся ў 1895 годзе ў Львове. Падчас Першай сусветнай вайны ваяваў супраць рускай арміі ў складзе польскіх легіёнаў. Удзельнічаў у баявых дзеяннях 1919-1920 гадоў супраць бальшавікоў, камандаваў штабам адной з пяхотных дывізій. Скончыў вышэйшую вайсковую школу, званне палкоўніка атрымаў у 1930 годзе. Пачатак Другой сусветнай вайны сустрэў у Брэсце, быў намеснікам камандзіра 9-га корпусу генерала Францішка Клэеберга. У ноч з 4 на 5 верасня памёр у Ружанах ад ран, атрыманых у перастрэлцы з паліцыяй.

Грунтоўнае даследаванне абставінаў гібелі палкоўніка Тжаска-Дурскага ў 2011 годзе апублікаваў гісторык Пётр Ціхарацкі.* З яго вынікае, што 4 верасня намеснік камандзіра корпуса быў пасланы з даручэннем з Брэста ў Баранавічы. Ехаў на аўтамабілі, кіроўцам якога быў капрал Станіслаў Маліноўскі. Па словах апошняга, палкоўнік быў знерваваны, гаварыў, што "яго паслалі на смерць", збіраўся вярнуцца і застрэліць свайго начальніка, па дарозе неаднаразова правяраў дакументы ў людзей (нібыта, паўсюль яму бачыліся нямецкія дыверсанты). Увечары таго ж дня яны вярталіся назад у Брэст і былі ў Слоніме каля 21-й гадзіны. І тут Тжаска-Дурскі з нейкай прычыны абстраляў з пісталета паліцэйскі аўтамабіль.

Далей падзеі развіваліся імкліва. Начальнік следчага аддзела слонімскай паліцыі Хмялеўскі патэлефанаваў у пастарунак у Міжэвічы і загадаў затрымаць аўтамабіль, у якім могуць быць "нямецкія дыверсанты". Камендант пастарунка паліцыі арганізаваў "блакаду дарогі". На патрабаванне паліцыі аўто спынілася, аднак палкоўнік з яго не выйшаў. Больш таго, нібыта, хацеў абстраляць паліцыянтаў, але нешта здарылася з пісталетам і стрэлу не адбылося (ці паліцыі падалося, што іх хацелі абстраляць). Аўтамабіль паехаў наперад пад стрэламі міжэвіцкіх паліцыянтаў (сярод іх былі Баляслаў Лагун і Мечыслаў Лех), быў лёгка паранены ў галаву кіроўца. Яны паведамілі ў Слонім пра прарыў "дыверсантаў" у бок Брэста.



*Зыгмунт Дурскі*

Наступная спроба спыніць аўтамабіль была зроблена ў Ружанах. Атрымаўшы паведамленне са Слоніма, камендант мясцовай паліцыі Лявон Каштэлян з трыма паліцыянтамі выйшлі на дарогу і сталі чакаць гасцей. У 21.20-22.00 з'явіўся аўтамабіль. На патрабаванне паліцыі палкоўнік выйшаў з аўто, прадставіўся. Прадставіўся і камендант паліцыі. Раптам Тжаска-Дурскі пачаў страляць у Каштэляна і забіў яго (па версіі паліцыі, бо Станіслаў Маліноўскі кажа, што было цёмна і ён толькі чуў стрэлы, але не бачыў, хто пачаў страляць). Іншыя паліцыянты адкрылі агонь па палкоўніку і цяжка яго паранілі. Пасля яны сцвярджалі, што афіцэр зноў спрабаваў страляць і тады яны ў яго зрабілі яшчэ некалькі стрэлаў. Па словах кіроўцы Маліноўскага (ён таксама быў паранены), паранены Тжаска-Дурскі паўторную стральбу не правакаваў. Паліцыянты дзейнічалі ці пад уплывам натоўпу (увогуле можна дапусціць, што хтосьці пабочны, напрыклад, мясцовы камуніст, справакаваў стральбу), які сабраўся, ці самастойна, з помсты за свайго камандзіра. Відаць, палкоўнік памёр у мясцовым шпіталі. Перад смерцю ён нешта казаў пра свае кантакты з Германіяй ці немцамі. Гэта чулі сведкі, у тым ліку цывільныя асобы, прадстаўнікі мясцовых уладаў. У іх склалася ўражанне, што паранены перад смерцю прызнаўся ў працы на нямецкую выведку. І гэтая версія трапіла ў афіцыйныя дакументы. Аднак Пётр Ціхарацкі, які прааналізаваў усе даступныя крыніцы, прыйшоў да высновы, што адназначна сцвярджаць пра гэта нельга.

Пакольскі ішла вайна, разабрацца дасканала ў здарэнні не ўдалося. Відавочна, што ў палкоўніка былі праблемы з псіхікай і яму была патрэбная медыцынская дапамога (магчыма, у першыя дні вайны ў афіцэра адбылася нейкая асабістая трагедыя, якая паўплывала на яго стан). Так сталася, што якраз у гэты час яго адправілі ў паездку, якая скончылася трагічна. Больш за тое, ён трапіў пад падазрэнне ў здрадзе. Людзі, якія чулі апошнія словы Тжаска-Дурскага, не падазравалі, што афіцэр мог быць цяжка хворы. Дарэчы, паранены кіроўца сведчыў: калі зразумеў, што камандзір "ненармальны", хацеў павярнуць аўтамабіль у Слоніме да казармаў па вуліцы 3 Мая. Але пабаяўся, што палкоўнік яго застрэліць.

●***Сяргей Ёрш***

**Cichoracki P. Okoliczności śmierci płk. dypl. Zygmunta Durskiego // Przegląd Historyczno-Wojskowy, 2011, t. 12 (63), n. 2 (235). S. 223-232.*

# Калі збудаваны храмы-крэпасці?

*Заканчэнне, пачатак у № 10(20).*

Аналізуючы і супастаўляючы змест прыведзеных дакументаў, Ю. Ёдкоўскаму было б прасцей і больш лагічна сказаць, што ў акце Варатынскага ад 1648 года Мацкевіча памылкова назвалі будаўніком храма. Бо жыў ён, згодна завяшчанню, на цэлых сто гадоў пазней адзначанай там жа даты. Аднак такі паварот справы не задавальняў даследчыка. Патрэбна было супраць дакументальных сведчанняў, дакладную дату будаўніцтва храма, прыведзеную Варатынскім, назваць памылковай, а Мацкевіча аб’явіць будаўніком царквы. Інакш гублялася сама ідэя аўтара аб тым, што будаўніцтва абодвух абарончых храмаў належыла мясцовым памешчыкам. У гэтым дапамагло Ю. Ёдкоўскаму ўстаўленае ў дакумент 1648 года слова “ім”, якое і паслужыла мостам для яго высноў, але заблытала змест усяго дакумента.

Цікава, што Ю. Ёдкоўскі больш не змог прывесці ніводнага аргумента ў падмацаванне сваіх высноў. Усведамляючы слабасць дакументальных аргументаў, ён пісаў: “Калі дакументальныя дадзеныя для каго-небудзь мала пераканаўчыя, то дастаткова пазнаёміцца з архітэктурнымі формамі і дэталямі Мала-Мажэйкаўскай царквы, каб пераканацца ў тым, што храм гэты збудаваны не раней першай паловы XVI стагоддзя”.[1] Але не зразумела, аб якіх пераканаўчых формах і дэталях ідзе гаворка. Зорчатае скляпенне ў пачатку XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім з’ява старая. Такое скляпенне больш характэрнае для XV стагоддзя ў касцельным будаўніцтве. Арыентацыя царквы і ўнутраная планіроўка — таксама паўтарэнне традыцый мінулага. Такім чынам, і ў дадзеным выпадку так званыя даследаванні Ёдкоўскага нічым не абгрунтаваныя.



ІНФАРМАЦЫЙНЫ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ

…, вул. Рэвалюцыйная,13 Тэлефон 22-52-34

4 лютага 1972

Паважаны Васіль Рыгоравіч!

Ваш артыкул пра Сынкавічы атрымалі. Вялікае …куй. Артыкул вельмі цікавы, добра напісаны, …адрукуем мы яго ў адным з бліжэйшых нумароў.

Просім паведаміць нам сваю спецыяльнасць і …аду. Чакаем адказу.

З прывітаннем.

Літсупрацоўнік /Р.Бярозкін/

Матэрыял праляжаў у рэдакцыі больш 2 гадоў і быў забраны без публікацыі.

*На лісце з рэдакцыі бюлетэня “Помнікі гісторыі і культуры Беларусі” В. Супрун зрабіў надпіс, што артыкул так і не быў надрукаваны.*

Супярэчлівасць дадзеных дакументаў 1648 года, відавочна, нельга ставіць у віну Варатынскаму. Малаверагодна, што аўтар дакумента, пішучы гэты акт на аснове дакладна датаванага завяшчання Мацкевіча, месцамі нават цытуючы яго, не арыентаваўся, у які час жыў памешчык. Больш таго, зусім не ясна, што змушала Варатынскага ў такім акце ставіць дакладную дату (з пазначэннем месяца і дня), калі ў праўдзівасці яе не быў абсалютна перакананы. У гэтым выпадку дата нібыта ўдакладняла, якой царкве Мацкевіч завяшчаннем ахвяроўваў дзесяціну.

Можна меркаваць, што дата пабудовы царквы Варатынскаму была добра вядома з дакладных крыніц і ў праўдзівасці яе ў той час не было сумневу, а слова “ім” у дакумент дапісана зацікаўленай асобай пазней. Слова гэтае яўна адасабляецца ад зместу дакумента.

Карыстаючыся арыгіналам і звярнуўшы ўвагу на супярэчлівасць дадзеных дакумента, Ю. Ёдкоўскі не мог не заўважыць дапіскі, але гэта быў адзіны аргумент ва ўсёй складанай і неверагоднай яго тэорыі. Адмаўленне ад яго азначала б згоду з фактам, а гэта не задавальняла даследчыка. Патрэбна было даказаць, што святкаванне 500-годдзя храма было памылкай.

Такім чынам, прааналізаваўшы ўсе аргументы Ю. Ёдкоўскага, прыведзеныя ў падмацаванне сцверджанняў аб неабходнасці пераносу датавання помнікаў на цэлае стагоддзе, відаць, што даследчык і ў дадзеным выпадку заставаўся неаб’ектыўным, як і ў шэрагу іншых сваіх публікацый.

Цікава, што нягледзячы на суб'ектыўны падыход да адбору інфармацыі па храмах, Ёдкоўскі ўсё ж пісаў наступнае: "Пры ўкладцы дашчатай падлогі [Маламажэйкаўскай царквы], у час рамонту 1871-1872 гг. (да гэтага часу падлога была цагляная), знаходзілі шмат пахаванняў пад цэгламі і на некаторых з іх былі каменні з выбітымі крыжамі, абведзеныя кругам. На адным камяні аказаўся надпіс "*Христов раб іерей Авраам*" *і год* "1469". [2]

Датаваны надпіс нібы пераклікаўся ў часе з датай, выбітай на адным з сынковіцкіх званоў, і сведчыў, што ў 1469 годзе царква ўжо існавала. Інакш пад падлогай не мог быць пахаваны служыцель культа іерэй Аўраам, магчыма, адзін з першых святароў храма.

Такім чынам, найбольш верагодным часам будаўніцтва згаданых храмаў быў пачатак XV стагоддзя, магчыма, нават 1407 год. Міжволі паўстае пытанне: хто мог быць аўтарам ідэі будаўніцтва гэтых помнікаў?

Безумоўна, навакольнаму сялянскаму прыходу такое будаўніцтва было не толькі непасільна, але і не зразумела. Па невядомых прычынах старажытныя традыцыі царкоўнага будаўніцтва тут змешваліся з элементамі готыкі і замкавай сімволікай.

У час археалагічнай разведкі ў ваколіцах Сынковіцкай царквы не ўдалося выявіць ніякіх прыкмет абарончых збудаванняў, нават земляных, якія маглі там раней існаваць. Відавочна, іх не было. Але між царквой і невялічкай рачулкай Бярозай, што працякае паблізу, заўважаны сляды невялічкай вёскі, якая ўжо вельмі даўно не існуе.

З гісторыі культавага будаўніцтва на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага вядома, што ў XV ст. няма-


2.IV-78 г.

Храм у Сынковічах

1. З гранёных вежаў у [illegible] памяшканне вяло 2 хода з арачным скляпеннем
а) ніжняе – з [illegible] сходаў – меншае вышыня 1,4 м, шырыня 47 см.
б) верхняе над уступам вежы, з [illegible] нага пераходу – выш. ≈ 1,5 м шыр. 65 см перапад 2,3 м.
2. Верх вежаў разбураны
3) [illegible] памяшканне мела два ярусы:
а) непасрэдна [illegible] купалам скляпенне
б) [illegible]

*Запісы Васіля Супруна пасля абследавання Сынковіцкага храма, 1978 г.*

ла храмаў узводзілася на сродкі князёў, іх родзічаў і прыбліжаных. Асабліва вызначаліся ў гэтым плане Ягайла і Вітаўт. Нават жонка Вітаўта Ганна Святаславаўна збудавала ў Брэсце Крыжаўзвіжанскую царкву, што ў дакументах згадваецца пад 1412 годам. [3]

У гэтай сувязі заслугоўвае ўвагі наступны гістарычны момант. У 1382 годзе вялікім князем Ягайлам, з мэтай ліквідацыі саперніцтва за ўладу, у вастрог Крэўскага замка быў кінуты стрыечны брат князь Вітаўт. Незадоўга перад гэтым у падзямеллі таго ж замка на загад Ягайлы быў па-здрадніцку задушаны бацька Вітаўта князь Кейстут. Вітаўт ведаў, што яго чакае тое самае. Становішча было безнадзейным. Ратунку не было адкуль чакаць. Тэрмінова трэба было ісці на любы, нават самы рызыкоўны крок. Пераапрануўшыся ў адзенне служанкі жонкі, пад прыкрыццём змроку Вітаўту ўдалося выйсці з астрогу і знікнуць у цемры ночы. Ахова схамянулася не адразу. Час быў выйграны. Уцякач-князь патаемна прабіраўся ўглыб беларускіх земляў туды, дзе разлічваў на прыхільнасць і падтрымку народу. І хоць на пагоню былі кінуты значныя сілы карнікаў, Вітаўт знік бязследна. Хто, дзе і як хаваў яго ад немінучай ганебнай расправы, не вядома. Вядома толькі, што апынуўся ён недзе ў ваколіцах Слоніма. І калі небяспека мінула, адсюль накіраваўся па дапамогу да крыжакоў.[4] Пазней, калі Вітаўт стаў вялікім князем, ён неаднаразова наведваў Слонімшчыну, быў тут у 1407 і 1409 гадах.[5]

Зусім магчыма, што падзеі, звязаныя з тым трывожным і безнадзейным мінулым у жыцці князя Вітаўта і былі прычынай будаўніцтва храмаў. Узведзены яны, верагодна, у 25-ю гадавіну выратавання ад смерці ў тых мясцінах, дзе знайшоў прытулак і ратунак будучы ўладар ВКЛ. Былі ж на шляху ўцекача і вельмі крытычныя хвіліны. Магчыма, тая маленькая вёсачка на беразе рэчкі Бярозы, што тулілася да зямлі між пушчаў бязмежных, і сляды

якой удалося выявіць цяпер, была для Вітаўта крытычным прытулкам і надзеяй на жыццё.

А калі ўсё так, што вельмі верагодна, то становіцца зразумела, чаму два гэтыя аб’екты нібы аб’ядноўваюцца і дataваннем, і формай, і размяшчэннем воддаль ад значных населеных пунктаў і важнейшых шляхоў. Чаму нададзена ім форма крэпасці, хоць навокал няма іншых прыкмет абароны, чаму ў дакументах не значацца яны ні дворнымі, ні прыхадскімі. Чаму ўкладзена ў іх так шмат архітэктурных навінак для таго часу, што прыдае ім і сёння велічнасць і прыгажосць.

Будаваліся храмы, безумоўна, мясцовымі майстрамі, але пад кіраўніцтвам вопытных спецыялістаў. Шматлікія пераробкі адначасныя будаўніцтву, тэхналагічныя памылкі, асіметрычнасць канструкцый і архітэктурных рашэнняў сведчаць, што нагляд княскіх спецыялістаў быў не паўсядзённы, а наездам.

Абодва храмы не захавалі першапачатковую форму, больш велічную і арыгінальную. Перабудаваны верхнія ярусы вежаў Маламажэйкаўскай царквы, дабудаваны бабінец, зменена форма страхі, асабліва над аўтарнай часткай. Нямала змен і на абліччы Сынковіцкай царквы. Тут значна спрошчана завяршэнне чатырох галоўных вежаў, разбураны малыя вежы бабінца, разбураны франтон бабінца і перапланіравана страха, заложана частка праёмаў. Значныя змены ёсць і ва ўнутраных афармленнях. Заменены падлогі, сталярка, аддзелка, перароблены нішы і інш.

Наогул помнікі даследаваны недастаткова і ў навуковай літаратуры асветлены мала (на час напісання артыкула — 1982 г. — “СК”). Захаванасць таксама жадае большай увагі і клопатаў. Помнікаў архітэктуры саюзнага значэння ў нас не так ужо і шмат. Таварыству па ахове помнікаў варта ўзяць гэтыя аб’екты пад належны кантроль і апеку.

●***Васіль Супрун***


*[1] Иодковский И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности (Москва), 1915. Т. VI. С. 288.*

*[2] Тамсама.*

*[3] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym. T. 3. — Warszawa, 1846. S. 725.*

*[4] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. — Słonim. 1934. S. 8.*

*[5] Aleksandrowicz B. Z przeszłości Słonima i ziemi słonimskiej. — Słonim 1935. S. 11.*




11 лютага 1974 г.

Сынковіцкі храм.

У гэты дзень фатаграфаваў аб'ект. У час абследавання выяўлена, што ў паўночна-заходняй 8-мі вугольнай вежы першапачатковае [illegible] ў самым нізу, над фундаментам вузкі праём 170 х 50 см. Відавочна, ход у вежу, які быў заложаны цэглаю амаль зусім такою ж, як астатняя кладка. У гэты, або больш позні час быў заложаны і [illegible] аконны праём пад карнізам вежы з поўдня.

Вежы ў прыдворы і сам прыдвор былі знішчаны часам. Яны, відаць, былі закончаны, але разбураны пазней.

Раней уваход у прыдвор быў бакавы, дзе цяпер вакно.



Цагляная кладка з правільнай перавязкай: лажок-тычок-лажок-тычок... Вежы [illegible] тычком.

Будынак у цэлым быў абштукатураны, аднак цяжка сказаць калі: ці да будаўніцтва, ці пасля.

Цэгла прыблізна: 27(26) х 14(14,5) х 9(8) см.





***Запіс В. Супруна пра наведванне Сынковіцкага храма 11 лютага 1974 года і схема царквы, выкананая 17 кастрычніка 1976-га.***

# Пра трагічнае здарэнне, у якім загінула жонка фатографа Шыманчыка



У нядаўнім матэрыяле пра Язэпа Шыманчыка* Сяргей Чыгрын згадаў трагічнае здарэнне, у якім загінула жонка фатографа Алена. Падчас нямецкай акупацыі на Гандлёвай плошчы (цяпер — пл. Леніна) быў арганізаваны мітынг. І Алена Ласько, якая была цяжарная, выйшла на балкон паслухаць прамовы. Балкон абваліўся і жанчына загінула.

Пра гэтае здарэнне згадвае ў сваіх успамінах наш зямляк Бырыс Данілюк. Ён піша, што гэта быў "адзін з прырынкавых дамоў". І што жонка Шыманчыка загінула пад балконам, які абваліўся.**

Ад старажылаў даводзілася чуць, што балкон абваліўся ў доме, які стаяў на рагу цяперашняй Першамайскай вуліцы і плошчы Леніна. Ён не захаваўся. Трэба спраўдзіць, ці сапраўды гэта той дом.

21 сакавіка 1944 года ў газеце "Слонімскі кур'ер" быў змешчаны некралог гарадской управы, у якім пералічваліся асобы, якія "трагічна з[а]гінулі ў сувязі з выпадкамі ў дні 7 сакавіка". Магчыма, што харунжы Іван Кулецкі (49-ці гадоў, з Грыўды на Косаўшчыне), які прысутнічае ў спісе, загінуў не падчас здарэння на мітынгу. А вось тры жанчыны сталі ахвярамі няшчаснага выпадку. Згадваюцца Алена Струнец, 1912 г. н., жонка дырэктара электрастанцыі; Яўгенія Шыманчык, 1913 г. н., "жонка фатографа-мастака"; Леаніла Кандрацюк, "акушэрка-практыкантка гарадской лячэбніцы".

Атрымліваецца, што жонка Язэпа Шыманчыка загінула не адна. Да таго ж пра яе напісана, як пра Яўгенію, не Алену, як падаецца ў шматлікіх публікацыях, прысвечаных жыццю фатографа. У газеце магла быць памылка, але ў тым жа нумары змешчана спачуванне:

"*У сувязі з трагічнаю смерцю ў дні 7 сакавіка жонкі супрацоўніка "Слонімскага кур'ера" і "Новага шляху" мастака-фатографа Я. Шыманчыка Яўгеніі Шыманчык Рэдакцыя складае яму шчырыя спачуванні*".

Атрымліваем яшчэ адну загадку. Цікава, што амаль восем гадоў таму была публікацыя, у якой згадвалася "Яўгенія Міхайлаўна Ласько" (праўда, 1908 г. н.).*** І ў тым артыкуле аднachасова выкарыстоўваюцца два варыянты імя жонкі Шыманчыка…

●***Генадзь Гурскі***

**Чыгрын С. Юзаф Шыманчык фатаграфаваў Слонім // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 15.*

***Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 288.*

****Юзеф Шиманчик и Елена Ласько // 2010, 11 студзеня; http://berezakartuska.livejournal.com/14436.html*



***У цэнтры можна пабачыць вялікі будынак з балконамі.***

# Дакументы пра слонімцаў з прыватных архіваў

На сайце meshok.net прадаецца шмат здымкаў, паштовак, дакументаў, звязаных са Слонімшчынай. Пра самыя цікавыя з іх мы згадаем у гэтай публікацыі.

Там знайшлася карэспандэнцыя банкаўскіх кантор Навума Лазінскага і Абрама Авербуха, якія існавалі ў Слоніме ў пачатку XX стагоддзя. Вельмі актыўную дзелавую перапіску вялі слонімскія бізнесмены браты Л. і Х. Айзенштадты. Слонімская крама-аптэка Б. Волаха мела карэспандэнцыю з Масквой. Верагодна, у справе набыцця лекаў.


НАУМЪ ЛОЗИНСКІЙ, СЛОНИМЪ.
БАНКИРСКАЯ КОНТОРА.
Условный тек. счетъ въ Слонимскомъ К-вѣ за № 56181.
14. ФЕВР. 1915
Азовско-Донскому
Коммерческому Банку
Варшава


Золотая медаль 1913 года.
ДРОЖЖЕВО-ВИНОКУРЕННЫЙ ЗАВОДЪ Т-ВА „Бр. Айзенштадтъ" въ г. Слонимѣ
Телеграммы: Слонимъ, Айзенштадту.

Слонимъ, Февраля 20 1915 г.

Азовско-Донскому Коммерческому Банку
Варшава

М.Г.

Прилагая при семъ ж.д.дубликатъ за № 4989 на отправленныя н/ дрожжи на ст.Варшава, просимъ выдать таковой г.М.Тухвергеру, Грибная площадь № 7 по полученіи съ него пятьсотъ сорокъ пять руб./545 р./, каковую сумму за вычетомъ В/ коммиссіон. просимъ немедленно н/ перевести.

Дрожжи отправлены на имя Азовско-Донской Коммерческій Банкъ.

Съ совершеннымъ почтеніемъ
Бр. Айзенштадтъ
Х. Айзен...

Азовско-Донской Коммерческій Банкъ 25 ФЕВ 1915 Отд. въ Варшавѣ

25/а

20846

Ёсць некалькі выпісак з метрычных кніг праваслаўнага дэканата Слонімскай акругі. З адной з іх даведваемся пра шлюб жыхара Слоніма Івана Рыгоравіча Філіпава і жыхаркі вёскі Цывіншчына Веры Іванаўны Адаська. 7 верасня 1931 года іх абвянчаў святар Яўген Дружылоўскі. Сведкамі былі Язэп Рыгоравіч Струпавец з Якімавічаў, Іван Паўлавіч Басак з хутара Крыжы (з боку жаніха) і Андрэй Максімавіч Грэцкі з Цывіншчыны (з боку нявесты). Іншая выпіска з метрычнай кнігі таксама мае дачыненне да Філіпава. Ён атрымаў яе ў чэрвені 1930 года. У дакуменце паведамлялася, што ў 1923 годзе ў Слоніме памерла мясцовая жыхарка Антаніна Мікалаеўна Філіпава (відаць, маці Івана Філіпава), удава. Яе пахавалі на гарадскіх могілках, абрад пахавання выканаў святар Павел Травін.

Дарэчы, хтосьці з Кіева прадаваў велікоднае віншаванне мітрапаліту са Слоніма на паштоўцы з цісненнем. Яго напісаў згаданы вышэй святар Дружылоўскі. Тэкст на рускай мове і толькі назва нашага горада напісана лацінкай. Ёсць на сайце і выява пячаткі слонімскай рыма-каталіцкай парафіі.

Можна там пабачыць і мабілізацыйнае пасведчанне ад чэрвеня 1934 года, выпісанае на імя жыхара вёскі Грынкоўшчына Дзевяткавіцкай воласці Мікалая Максімавіча Казушчыка, 1907 года нараджэння. Цікава, як склаўся лёс гэтага чалавека, у якое войска ён у выніку трапіў падчас Другой сусветнай вайны?

На адным з дакументаў ад 1873 года праўдзівасць подпісаў гараджан засведчыў паліцэйскі наглядальнік Слоніма Іваноў, і сваім подпісам, і пячаткай.

Жыхар расійскага горада Тальяці прадаваў фота салдата са знакам *ГТО СССР*. Было пазначана, што яно зроблена ў Слоніме ў 1941 годзе. Нехта Валодзя даслаў сястры гэты здымак на памяць. На сайце ёсць і здымак салдат 117-га Яраслаўскага палка рускай арміі, які дыслакаваўся ў нашым горадзе. Зроблены ён быў у пачатку Першай сусветнай вайны. Вайскоўцы на фота з гадзіннікамі, якімі былі ўзнагароджаны.

Вядома, шкада, што ўсе гэтыя дакументы знаходзяцца ў прыватных руках, а не ў архівах. Бо гэты варыянт гарантаваў бы іх захаванасць на будучае.

●***Генадзь Гурскі***

БАНКИРСКАЯ КОНТОРА

**Абрамъ Авербухъ**

въ СЛОНИМѢ.

Условный текущій счетъ въ Слонимскомъ Казначействѣ № 56183.
Телефонъ № 23.

Слонимъ, Мая 22 1915 г.

Азовско Донской Коммерческий Банкъ
Варшава

Милостивый Государь

Препровождая Вамъ при семъ для инкассо 2 жел. дорожн. дубликата векселей на сумму Руб. 1059 коп. 18, покорнѣйше прошу Васъ выдать таковые нижеозначеннымъ лицамъ, получивъ съ нихъ стоимость согласно нижеупомянутой описи. Полученныя суммы благоволите { перевести мнѣ переводомъ въ Слонимское Казначейство / заприходовать мнѣ въ счетъ } деньги перевести скоро за н/ услов. текущ. счетъ № 56183

При утонченіи моихъ текущихъ №№

| Текущій № | № накладн. | Руб. | Коп. | Плательщики | Срокъ | Пени |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2128 | 89035 | 528 | 86 | | 28/5 | % |
| 2129 | 89004 | 535 | 32 | | | |
| | | 1059 | 18 | | | |

По получ. Валюты благоволите перевести деньги скоро за н/ услов. текущ. счетъ № 56183 за вычетомъ вашей умеренной комиссии.

Въ ожиданіи Вашего отвѣта пребываю

Съ совершеннымъ почтеніемъ А. Авербух

Djecezja Grodzieńska. Cerkiew parafji prawosławnej m. Słonima
Województwa Nowogródzkiego powiatu Słonimskiego

**Wypis z Księgi metrykalnej**

części trzeciej, o zmarłych

za rok tysiąc dziewięćset dwudziesty trzeci /1923/

| Liczba zmarłych | Miesiąc i dzień śmierci | pogrzebu | Stanowisko, imię, imię ojca i nazwisko zmarłego | Lata zmarłego | Na co zmarł | Kto spowiadał i zakomunikował | Kto wykonał pogrzeb i gdzie pochowany |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | Styczeń 31 | 1 | Mieszkanka m. Słonima Antonina Filipowa c. Mikołaja, wdowa | 38 | Na zaziębienie | Protojerej Paweł Trawin | Protojerej Paweł Trawin, na cmentarzu miejskim |

Zgodność z aktem metrycznym stwierdza się.

Dnia 10 Czerwca 1930 r.

M. P.

Proboszcz parafji

Djecezja Grodzieńska. Cerkiew parafji prawosławnej m. Słonima
Województwa Nowogródzkiego powiatu Słonimskiego

**Wypis z Księgi metrykalnej,**

części drugiej, o ślubach

za rok tysiąc dziewięćset trzydziesty pierwszy /1931/

| Miesiąc i dzień | Stanowisko, imię, imię ojca, nazwisko i wyznanie narzeczonego i który ślub | Wiek narzeczonego | Stanowisko, imię, imię ojca, nazwisko i wyznanie narzeczonej i który ślub | Wiek narzeczonej | Kto wykonał sakrament | Poręczyciele |
|---|---|---|---|---|---|---|
| maj 11 | Mieszkaniec m. Słonima Joann s. Grzegorza Filipow, wyznania prawosławnego, pierwszym ślubem | 23 | Mieszkanka wsi Cysinszczyzna gm. Szydłowice Wiera c. Jana i Anastazji Adaśko, wyznania prawosławnego, panna, pierwszym ślubem | 23 | Protojerej Eugenjusz Drużycki | Ze strony narzeczonego: m. w. Jakimowicze Józef s. Grzegorza Strupiewicz i ws. Korzyży Jan s. Pawła Bisak. Ze strony narzeczonej: m. w. Cysinszczyzna Andrzej s. Maksima Grecki |

Zgodność z aktem metrycznym stwierdza się.

Dnia 7 Września 1931 r.

M. P.

Ks. Eugenjusz Drużycki
Proboszcz parafji

1

SŁONIM

P. K. U.

Wzór Nr 13.

Rocznik 1907

L. Gł. Ks. Ew. (An.) 493

1054

**Zaświadczenie mobilizacyjne.**

1. Stopień wojskowy Strzelec
2. Nazwisko Karnusewych
3. Imię Mikołaj
4. Imiona rodziców ojca Maleszyn, matki Anastazja
5. Urodzony dnia ... mies. ... roku 1907
6. Zamieszkały w Krynkowszczyzna (dokładny adres) Gmina Dziewiętlewicze powiat Słonim
7. Nie posiada karty mobilizacyjnej; w razie wojny będzie powołany do służby wojskowej przy pomocy imiennej karty powołania lub osobnem obwieszczeniem.

Z chwilą otrzymania karty mobilizacyjnej lub karty powołania, niniejsze zaświadczenie należy zwrócić organowi doręczającemu.

Podpis Pow. Kom. Uzup.
Powiatowy Komendant Uzupełnień
M. HYLA
ppułkownik

Pieczęć

19 CZER 1934



# 80 гадоў таму літаратары Слонімшчыны спрабавалі выдаць беларускамоўны альманах

У студзені 1944 года ў газеце "Слонімскі кур'ер" быў апублікаваны артыкул "Пачаткі"[1], прысвечаны гісторыі беларускага літаратурнага руху на Слонімшчыне. Ён ананімны, але можна з упэўненасцю сцвярджаць, што яго аўтарам з'яўляецца Сяргей Хмара (Сіняк), супрацоўнік выдання і яго фактычны рэдактар. Паколькі ў тэксце неаднаразова згадваецца і яго прозвішча, Хмара не паставіў подпісу. Не захацеў ён выкарыстаць і псеўданім.

Нагадаем, што гэта быў час нямецкай акупацыі. "Слонімскі кур'ер" выдаваўся пад наглядам цэнзуры. Ды нават і без гэтага Хмара не рашыўся б згадаць паэтаў Анатоля Іверса (Івана Міско) і Сяргея Новіка-Пяюна (Новіка). Першы, пасля правалу савецкага падполля ў Слоніме ў лістападзе 1943 года, пайшоў у лес да савецкіх партызанаў. Другі быў арыштаваны, знаходзіўся ў зняволенні. А вось паэт і сувязны савецкіх партызанаў Валянцін Таўлай у артыкуле згадваецца — нямецкія спецслужбы яго патаемную дзейнасць не змаглі выкрыць і ён заставаўся на волі.

Артыкул Сяргея Хмары ўтрымлівае нямала цікавых фактаў. Важнае сведчанне пра "гурток сведамых беларусаў", які існаваў у Слоніме яшчэ напярэдадні Першай сусветнай вайны, а яго "куратарам" быў паэт Гальяш Леўчык. Яшчэ адзін малавядомы факт — у міжваенны час паэты Слонімшчыны спрабавалі выдаць беларускамоўны альманах.

Хмара згадвае пра зборнікі вершаў некалькіх паэтаў, якія не былі надрукаваныя і заставаліся ў рукапісах. Для нас асабліва цікавая згадка пра Язэпа Вількоўшчыка (Іосіфа Вількоўскага). Высвятляецца, што ў яго было падрыхтавана да друку некалькі зборнікаў. На жаль, архіў паэта не захаваўся, вядомыя толькі асобныя яго аўтографы.[2] А першы зборнік Вількоўшчыка выйшаў ужо пасля яго смерці.[3]

Артыкул мы передрукоўваем з мінімальнымі праўкамі, з адаптацыяй да сучаснага правапісу. Таксама выпраўленыя некаторыя памылкі ў датах (напрыклад, Хмара піша, што "Наша ніва" пачала выходзіць у 1905 годзе, але насамрэч гэта адбылося ў 1906-м).

Варта адзначыць, што ў межы Слонімскага павета калісьці ўваходзілі значныя тэрыторыі суседніх раёнаў. Таму не дзіўна, што Сяргей Хмара лічыў сябе слонімскім паэтам, хаця і быў ураджэнцам Казлоўшчыны. Тое самае адносіцца і да шэрагу іншых літаратаратаў.

●*Сяргей Ёрш*

**Пачаткі**

Быў 1905 год, рваліся над Беларуссю царскія ланцугі. "Глянула сонца ў ваконца", хоць і маленечкі, маленечкі праменьчык.

[У 1906 годзе] у Вільні выйшла першая беларуская газета "Наша ніва". І пацягнуліся да роднае "Нівы" сыны Беларусі, прачнуўшыся ад векавога сну. Менск, Горадня, Маладэчна, Вільня і Слонім…

Слонім — спольшчанае каталіцкае мяшчанства і навокал шчыра беларускае сялянскае мора. Сакавітая беларуская гутарка, беларуская прыгажосць жаночай нацыянальнай вопраткі, беларуская сумная песня.

І вось сярод гэтага мяшчанства, акружаны беларускай стыхіяй, у 1880-м нарадзіўся першы слонімскі паэт Гальяш Леўчык. У Гальяшу адазвалася старая беларуская кроў, загаварыла беларускае сэрца, і ён насуперак усім сваім крэўным, апалячаным мяшчанам, становіцца беларусам, і (о жах!) пачынае пісаць на "мужыцкай", "хамскай" мове вершы. У 1906 годзе Гальяш Леўчык пачынае супрацоўнічаць з "Нашай нівай" ад Слоніму. А ў 1912 годзе слонімскі паэт выдае свой зборнік вершаў "Чыжык беларускі". Ужо ў тыя гады існуе ў Слоніме гурток сведамых беларусаў, якія былі пад кіраўніцтвам Гальяша Леўчыка.

Сусветная вайна 1914 года глушыць беларускую працу ў Слоніме. Але зараз жа пасля вайны (у 1918 г.) Гальяш Леўчык зноў выступае ў беларускіх часапісах Горадні і Вільні.

Падыходзяць 1924-1925 гады. Нягледзячы на польскі прыгнёт, беларускі рух штораз пашыраецца. Слонімшчына не толькі не адстае ад іншых акругаў, але з'яўляецца адной з першых. Дзясяткі беларускіх патаемных, нелегальных школаў (1924-25 гг.). Барацьба за беларускую мову ў каталіцкім касцёле (1922 г., Луконіца[4]), у праваслаўнай царкве (1925 г., Казлоўшчына[5]). Ствараюцца першыя беларускія культурныя арганізацыі.

На літаратурным фронце, на дапамогу Гальяшу Леўчыку, падрастае слонімскі беларускі літаратурны маладняк. У 1924 годзе пачынае друкавацца ў "Беларускай крыніцы" Н. Жальба.[6] У 1925 годзе адзываецца Сяргей Хмара, у 1929-м — В. Таўлай, у 1930-м — Я. Вількоўшчык, у 1935-37 гг. — М. Дубок.

Палітычныя абставіны не давалі магчымасці паэтам Слонімшчыны мець паміж сабой мацнейшую сувязь, не

гаворачы ўжо аб стварэнні літаратурнай арганізацыі. Паэтаў праследавалі польскія палітычныя ўлады. Творы іх папросту адбіраліся паліцыяй і знішчаліся, а ў горшым выпадку яшчэ распачыналася за гэта супраць паэта справа за антыдзяржаўную прапаганду. Не адзін з іх трапляў за краты польскіх турмаў і калючыя драты канцэнтрацыйных лагераў (С. Хмара [быў у зняволенні] 9 гадоў, В. Таўлай — 8 гадоў[7], Н. Жальба, М. Дубок).

І не дзіўна, што толькі некаторым з іх пасля доўгіх намаганняў удавалася выдаваць па маленечкім зборнічку сваіх твораў. Цэлы літаратурны даробак некаторых паэтаў, як напрыклад, Н. Жальбы, Я. Вількоўшчыка, М. Дубка, па-за дробнымі рэчамі, друкаванымі ў часапісах, гэтак і застаўся ў рукапісах.

Зборнікі твораў Н. Жальбы, М. Дубка (падрыхтаваны да друку яшчэ ў 1936 годзе), зборнікі Я. Вількоўшчыка не выданыя да гэтага часу. З слонімскай маладой генерацыі зборнікі выдалі В. Таўлай і С. Хмара.

У 1935-1937 гадах маладая генерацыя літаратурнай Слонімшчыны спрабуе выдаць у Слоніме свой літаратурны альманах пад назвай “Маладая Ускалось”, які мусіў умацаваць сувязі паміж паэтамі. Аднак польскія ўлады праследаваннямі да гэтага не дапусцілі.[8]

Паэты Слонімшчыны — гэта ўсе без вынятку сыны беларускае вёскі, сцісла звязаныя з сялянствам, з якога яны самі паходзяць. Кроў з крыві і косць з косці! Н. Жальба — былы настаўнік, В. Таўлай, М. Дубок — сыны бедных вясковых гаспадароў, Я. Вількоўшчык — сын бедных гаспадароў, С. Хмара — былы батрак. Слонімцы-паэты заўсёды з сялянствам, а беларускае сялянства з імі.



***Гальяш Леўчык (трэці злева) са сваімі землякамі, 1905 год. Магчыма, што гэтыя слонімцы і ўваходзілі ў “гурток сведамых беларусаў”.***

Калі паўстала думка стварыць на Слонімшчыне спецыяльны выдавецкі сялянскі літаратурны фонд, каб саматугам выдаваць зборнікі твораў мясцовых паэтаў, сяляне шчыра адгукнуліся на гэта і на працягу трох месяцаў першы зборнік на сялянскія грошы быў выданы (С. Хмара. “Жураўліным шляхам”, [Вільня], 1939), а выхаду наступных перашкодзіла толькі вайна.

Па развале ў 1939 годзе Польшчы бальшавікі пасля прыходу ў Слонім пасля парутыднёвых залётаў да мясцовых беларускіх літаратурных сілаў хутка паказалі свой праўдзівы твар, паарыштоўвалі некаторых паэтаў за “антыдзяржаўную” работу, а рэшту ўзяўшы пад далікатны нагляд. Вайна 1941 года прынесла нарэшце канчатковае вызваленне ад бальшавіцкіх і польскіх паноў.

*Слонімскі кур’ер, 1944, № 3, 15 студзеня.*

*1] [Хмара С.]. Пачаткі // Слонімскі кур’ер, 1944, № 3, 15 студзеня.*

*[2] Ёрш С. Знойдзены рукапісы паэта Язэпа Вількоўшчыка // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С.2; Ёрш С. У Слоніме сярод папер Гальяша Леўчыка знайшоўся рукапіс Язэпа Вількоўшчыка // Слонімскі край, 2016, № 5. Чэрвень. С. 9.*

*[3] Язэп Вількоўшчык. Прыкрыты сэрца боль: з літаратурнай спадчыны. — Мінск, 2015.*

*[4] Цяпер вёска ў Галынкаўскім сельсавеце Зэльвенскага раёна.*

*[5] Цяпер у складзе Дзятлаўскага раёна.*

*[6] Н. Жальба, Нікіфар Жальба — псеўданім беларускага паэта Аляксандра Бяленкі (1898 — 1991), ураджэнца вёскі Гірычы Дзятлаўскага раёна. Насамрэч яго першы верш быў апублікаваны ў 1923 годзе ў віленскім часопісе “Маладое жыцьцё”.*

*[7] Насамрэч, Хмара прасядзеў у польскіх турмах 5-6 гадоў. Гл.: Поэт Сергей Хмара — руководитель отряда рабочей гвардии // Социалистическая Якутия, 1939, 17 кастрычніка. С. 2; Ёрш С. Слонімскія паэты на старонках газеты “Літаратура і мастацтва” 1939-1940 гг. // Слонімскі край, 2016, № 5. Чэрвень. С. 10-11. Таксама 5-6 гадоў правёў у польскіх турмах і Таўлай (у 1934-м ён быў асуджаны на 8 гадоў турмы, але ўвесь тэрмін не адсядзеў).*

*[8] У пачатку 1937-га С. Хмара быў арыштаваны і трапіў у канцлагер у Бярозе Картузскай, з якога яго вызвалілі толькі ў пачатку лета 1938 года. Гл.: Ёрш С. Першы ліст Сяргея Хмары пасля вызвалення з канцлагера // Слонімскі край, 2017, № 9(19) Верасень. С. 19.*

ПОШТА

# Шыльда скульптара Леаніда Богдана пасуе на помніку Стаброўскім

У кастрычніцкім нумары "СК" сталы аўтар выдання, яго сузаснавальнік і сувыдавец Сяргей Чыгрын (ён жа рэдактар гэтага нумару) у матэрыяле "**Пра Леаніда Богдана і шыльду на магіле Стаброўскіх**", выказаў сумненне, ці слушна зрабілі супрацоўнікі Слонімскага краязнаўчага музея, якія ў гэтым годзе ўстанавілі польскамоўную шыльду на каменным помніку Стаброўскім. Лічу, што работнікі музея зрабілі слушна, бо на шыльдзе Л. Богдана змешчаны аўтэнтычны тэкст з самога помніка.

23 гады таму, у кастрычніку 1994-га, згаданая ў матэрыяле С. Чыгрына Вольга Кузьмінічна Курыловіч сапраўды казала рэжысёру Беларускага тэлебачання Аляксандру Сухоцкаму (у 1994-1995 гадах ён здымаў фільм пра Стаброўскага), што "*каменны помнік Язэп Стаброўскі вырабляў разам з мясцовым жыхаром Пілiпам Курыловічам*", а таксама паказала сам помнік, на якім тады досыць выразна чыталіся імёны Амелія, Мiраслаў, Ірэна Стаброўскія і гады іх жыцця. Эпітафія была на польскай мове, і зроблена яна самім Стаброўскім. На магіле Язэпа Стаброўскага крыжа ўжо не было, а крыжы на магілах жонкі і дзяцей былі паваленыя. Праўда, на іх захаваліся таблічкі, таксама зробленыя Стаброўскім, і таксама з тэкстам па-польску. С. Чыгрын пры гэтым прысутнічаў, усё чуў і бачыў. Другі раз усе чатыры польскамоўныя эпітафіі (тры таблічкі на крыжах і надпіс на помніку) аўтар згадкі бачыў і чытаў 19 лістапада 2000 года, калі ён і цяперашні сузаснавальнік і сувыдавец "СК"







***Падчас установкі мемарыяльнай шыльды. Фота: "Слонімскі веснік".***

Сяргей Ёрш, будучы кіраўнікамі адпаведна журналісцкага і гісторыка-краязнаўчага гурткоў падлеткавага клуба "Святліца" грамадскага аб'яднання "Воля да развіцця", разам з дзецьмі прыбіралі магілы Стаброўскіх. Таму здзіўляе, калі, распавядаючы пра наведванне магілаў Стаброўскіх у лістападзе 2016 года, С. Чыгрын піша, што Л. Богдан "*фатаграфаваў шыльдачкі на крыжах, на якіх на польскай мове былі напісаны імёны, прозвішчы, даты жыцця тых Стаброўскіх, што знайшлі свой апошні спачын на орлаўскім пагосьце*".

Усё напісанае ў гэтай цытаце праўда. Але не ўся праўда. Не сказана, што таблічкі зрабіў сам Язэп Стаброўскі. І кожны нармальны беларус, які гэта не ведае, падумае з абурэннем: чаму яны (толькі) па-польску?! Тое ж самае можна

падумаць і пра польскамоўную шыльду на помніку Стаброўскім. Аўтар згадкі "Пра Леаніда Богдана і шыльду на магіле Стаброўскіх" піша, што скульптар вырабіў польскамоўную шыльду пасля наведвання орлавіцкіх могілак 2 лістапада 2016 года. Насамрэч, шыльда тады ўжо была ў музеі.

Шыльду на помнік Стаброўскім Л. Богдан вырабіў у 2003 годзе. Было гэта так. У 2000-2003 гадах грамадскае аб'яднанне "Воля да развіцця" апекавалася магіламі Стаброўскіх. Увосень 2002 годзе былі адрэстаўраваныя таблічкі на крыжах родных і выраблена таблічка на крыж самога Стаброўскага. Тэкст апошняй (па-польску і па-беларуску) быў узгоднены з дачкой і ўнукам Стаброўскага. А вось эпітафія на помніку ўжо амаль не чыталася і магла быць страчана незваротна. Таму было вырашана аўтэнтычны тэкст з яго графічнымі асаблівасцямі перанесці з помніка на гранітную пліту і дадаць туды імя самога Стаброўскага. Пліту меркавалі ўстанавіць на другім знізу ярусе, пад тэкстам эпітафіі. Усё гэта таксама было ўзгоднена з Дзілярай Іосіфаўнай Стаброўскай і яе сынам Дзмітрыем. Вырабіць пліту мы папрасілі слонімскага скульптара Л. Богдана. Ён ахвотна пагадзіўся, прыязджаў на могілкі, зрабіў адпаведныя замеры. Ад платы за матэрыял і за працу Леанід адмовіўся. Пліту мы планавалі ўстанавіць у 2003 годзе. Не атрымалася (як не атрымалася ўстанавіць на помніку і фігурку з выявай Ісуса Хрыста, бо тую, што была, нехта скраў, прынамсі, у кастрычніку 1994 года фігуркі ўжо не было). Пра гэта асобная размова. Пліта доўга знаходзілася ў Л. Богдана, а потым ён перадаў яе ў музей.

Так, Стаброўскія заслугоўваюць і надмагільныя пліты, і надмагільны манумент на мове нашай дзяржавы — па-беларуску. Але найперш трэба захаваць зробленае самім Язэпам Стаброўскім — каменны помнік і таблічкі на крыжах жонкі і дзяцей. І не наракаць на польскамоўнасць напісаных Я. Стаброўскім эпітафій, а вывучаць іх. Як гэта зрабіў 19 лістапада 2000 года на орлавіцкіх могілках кіраўнік гісторыка-краязнаўчага гуртка падлеткавага клуба "Святліца" Сяргей Ёрш са сваімі выхаванцамі: "На адной з шыльдачак захаваўся такі тэкст, напісаны Язэпам Стаброўскім, які смуткаваў з выпадку смерці сваёй жонкі Амеліі-Веронікі: "*Не спазнаўшы нічога ў сваім жыцці, збалелае сэрца лягло ў зямлю, забраўшы ў труну маё шчасце…*" (пераклад з польскай мовы)". (Валянцін Грыневіч, Валерый Галеня, Валерый Епіфанаў, Міхась Варанец "Паездка ў Орлавічы". Бюлетэнь "Слонімскі краязнаўца", № 1, снежань 2000 г.).

Сябры грамадскага аб'яднання "Воля да развіцця" і скульптар Леанід Богдан зрабілі, што змаглі — таблічку на крыж Язэпа Стаброўскага, захавалі аўтэнтычныя эпітафіі. І супрацоўнікі слонімскага музея, якія 4 кастрычніка гэтага года ўрачыста ўстанавілі на помніку Стаброўскім зробленую Л. Богданам гранітную пліту, зрабілі слушна, устанавілі правільную шыльду. І дзякуй ім за гэта. Магчыма, некалі спецыялісты адрэстаўруюць, зробяць чытэльным тэкст, які выбіты на помніку рукою Язэпа Стаброўскага.

●***Міхась Варанец***,
*маёр запасу, у 1994-95 гадах камандзір слонімскай харугвы БЗВ імя Язэпа Стаброўскага, з 1995 года — кіраўнік ГА "Воля да развіцця".*

**Post scriptum**

Міхась Варанец у сваім артыкуле зрабіў некалькі папрокаў у мой адрас. Не пракаменціраваць



іх я не мог. Спадар Варанец кажа: "Таму здзіўляе, калі, распавядаючы пра наведванне магілаў Стаброўскіх у лістападзе 2016 года, С. Чыгрын піша, што Л. Богдан "*фатаграфаваў шыльдачкі на крыжах, на якіх на польскай мове былі напісаны імёны, прозвішчы, даты жыцця тых Стаброўскіх, што знайшлі свой апошні спачын на орлаўскім пагосьце*". Дык што тут за здзіўленне? Для пацвярджэння публікуем здымак, на якім добра бачна, як Леанід Богдан фатаграфуе шыльдачкі на крыжах. Дык чаму тут здзіўляцца?..

Далей Варанец піша: "Усё напісанае ў гэтай цытаце праўда". Дык у чым, зноў паўтаруся, здзіўленне?.. Працягвае Варанец ізноў: "…Але не ўся праўда. Не сказана, што таблічкі зрабіў сам Язэп Стаброўскі…". Ну, добра, што рабіў іх сам Язэп Стаброўскі. Я такой мэты ў сваім матэрыяле не ставіў: апісваць шыльды, таблічкі, хто рабіў, хто не рабіў і г. д. Мой матэрыял быў прысвечаны іншай тэме.

Спадар Варанец далей паведамляе: "Аўтар згадкі "Пра Леаніда Богдана і шыльду на магіле Стаброўскіх" піша, што скульптар вырабіў польскамоўную шыльду пасля наведвання орлавіцкіх могілак 2 лістапада 2016 года. Насамрэч, шыльда тады ўжо была ў музеі…". Ну, была дык была. Раней ці пазней зробленая. Не такі гэта вялікі і важны факт... Але я застаюся пры сваёй думцы і мяркую, што гэтай **польскамоўнай** шыльды на помніку Стаброўскіх у Орлавічах быць не павінна.

●***Сяргей Чыгрын***

# Што пісаў расійскі імператар Павел І у Слоніме 220 гадоў таму



У траўні 1797 года расійскі імператар Павел І здзяйсняў паездку па Беларусі. Яшчэ падчас праўлення яго маці, Кацярыны ІІ, у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя ВКЛ апынулася ў складзе Расійскай імперыі. Новыя ўлады пачалі тут наводзіць свае парадкі. Адным з найважнейшых мерапрыемстваў для іх была ліквідацыя Уніяцкай Царквы (яна адбылася ў 1839 годзе). Яе вернікамі былі каля трох чвэрцяў насельніцтва Беларусі. Уніятаў пераводзілі ў праваслаўныя гвалтоўна, што выклікала і незадавальненне людзей, і супраціўленне. Гэтыя падзеі і сталі прычынай напісання ліста Паўла І да мінскага губернатара, які змешчаны ніжэй ў перакладзе на беларускую мову.*

Адзначым, што Павел І стаў імператарам у лістападзе 1796 года пасля смерці Кацярыны ІІ. Каранацыя адбылася ў красавіку 1797-га. Неўзабаве пасля яе ён і паехаў у Беларусь. Дарэчы, за некалькі месяцаў да паездкі імператар ліквідаваў Слонімскую губерню (намесніцтва), разам з Віленскай уключыўшы яе ў склад Літоўскай губерні.** З даты ліста нам вядома, што ў Слоніме Павел І быў 13 траўня 1797 года (10 траўня ён яшчэ быў у Мінску, а 14-га — ужо ў Гродне). Спыняўся ў былым палацы Агінскага, дзе верагодна пераначаваў. У той час яшчэ можна было пабачыць рысы колішняй велічы і прыгажосці. Пройдзе яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў і застануцца толькі руіны…

**●*Сяргей Ёрш***

«Спадар сапраўдны стацкі дарадца і мінскі губернатар Карнееў.*** У праездзе нашым праз Мінскую губерню, пабачылі мы, што хоць у многіх паселішчах былыя уніяцкія цэрквы ператвораныя ў набожныя і да іх вызначаны святары, але жыхары ад наведвання тых цэркваў і атрымлівання трэбаў святых ухіляюцца, прад'яўляючы пры гэтым, што вялікая з іх частка ніколі не мелі добраахвотнага жадання пакінуць унію. А як царква наша праваслаўная не інакш ў супольнасць сваю прымае іншаверных, як не па прымусу кожнага з іх у сумленні пераканання аб святасці закона нашага, з другога ж боку не менш трэба назіраць, каб страх, або якія-небудзь непрыстойныя выдумкі, з боку духоўных і свецкіх іншаверных не абмяжоўвалі, а найболей простага люду ў звароце іх добраахвотным да пабожнасці, для таго ў папярэджанне усякай бязладзіцы прызналі мы за патрэбнае, каб вы асабіста, а дзе паспець не можаце, праз спраўных і надзейных з губернскіх чыноўнікаў прыродных расійскіх**** аб'ехалі ўсе тыя паселішчы, у якіх існуюць падобныя абставіны, і без агалоскі самым рахманым і ласкавым чынам спыталіся абывацеляў гэтых, чаму ўхіляюцца яны ад царквы набожнай, бо лёгка быць можа, што тут, як вышэй сказана, садзейнічаюць або страх прыгнёту, або хітрасць іншаверных духоўных і памешчыкаў, і няхай паміж жыхарамі знойдуцца такія, што пажадаюць добраахвотна трымацца набожнасці, аб такіх паведаміць архіепіскапу мінскаму, каб цэрквы іх забяспечаны былі добрымі святарамі, пакідаючы тут яшчэ і пераважна былых уніяцкіх святароў, калі самі веру нашу прыняць захочуць, а якія з іх, застаўшыся уніятамі, пазбавяцца сваіх парафій, такім вызначаць пражытак, гледзячы па тых парафіях ад пяцідзесяці і да ста рублёў на год з тамтэйшых даходаў; дзе ж знойдзецца, што жыхары добраахвотна жадання да далучэння іх да царквы нашай самі не абвясцілі і заўсёды жадалі заставацца ў уніі, там ім ні перашкоды, ніжэй прымусу ніякага чыніць зусім не дапускаць; адным словам, старацца аднавіць спакой кожнага ў яго сумленні і адвярнуць разлад і сваркі. Пра падрабязнасці выканання гэтых нашых прадпісанняў мы будзем чакаць ад вас паведамлення.

У Слоніме. 13 траўня 1797 г.».

**Ліст Паўла І публікуецца з наступнага выдання: Акты, издаваемые Виленскою археографическою коммиссіею. Томъ XVI. Документы, относящіеся къ исторіи церковной уніи въ Россіи. — Вильна, 1889. С. 572-573.*

***Гл.: Ёрш С. Расійская імператрыца Кацярына ІІ і палац Агінскага ў Слоніме // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 3.*

****Захарый Карнееў (1748 — 1828) — першы губернатар у Мінску, займаў гэтую пасаду з 1796 года.*

*****Гэта значыць, ураджэнцаў Расіі, прысланых у Беларусь.*

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Працяг, пачатак у № 6-10, 2017 г.*

**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**

180. **Нікіфарчук Вас.**, жонка Вол., дзеці: Яўген, Мар., Вік., бацька Ст., маці Ева. Прыехалі з вёскі Юравічы. Часова спыніліся ў Татарску.

181. **Агароднік Мар. Дзміт.**, 27 гадоў, дзеці: Ніна, 5 гадоў, Алд., 4 гады. Прыехалі з вёскі Галынка. Часова спыніліся ў пасёлку Красноўск.

182. **Анішчык Пав**. з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Акунінава. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

183. **Пашкевіч Лук. Сям.**, 35 гадоў, жонка Сцяп., 33 гады з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Высацк. Часова спыніліся ў Томску.

184. **Пашкевіч Ол. Ст.**, 20 гадоў, сястра Вера, 18 гадоў. Прыехалі з вёскі Высацк. Часова спыніліся ў Томскім павеце.

185. **Пякарскі Міхаіл Фёдаравіч**, 44 гады, жонка Ак., 43 гады, дзеці: Мар., 16 гадоў, Макс., 13 гадоў, Соф., 1 год. Прыехалі з вёскі Міжэвічы. Часова спыніліся ў Барнауле.

186. **Пекарчук Ст. Міх.**, 50 гадоў. Прыехаў з вёскі Міжэвічы. Часова спыніўся ў п/а Балотнае.

187. **Петручэня Фёдар Л.**, 43 гады, жонка Мар., 38 гадоў, дзеці: Мік., 14 гадоў, Сям., 9 гадоў, Ул., 5 гадоў, Вера, 7 гадоў. Прыехалі з вёскі Вялікая Кракотка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

188. **Пікевіч Анас**. з сям'ёй. Прыехала з вёскі Мыслава. Часова спынілася ў п/а Балотнае.

189. **Пакалава Алякс.**, 20 гадоў. Прыехала з вёскі Вострава. Часова спынілася ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

190. **Ракевіч Ів. В.**, 53 гады, жонка І., 54 гады, дзеці: Фёк., 14 гадоў, Макс., 11 гадоў. Прыехалі з вёскі Мыслава. Часова спыніліся ў Томскім павеце ў вёсцы Крылова.



*Фота: bn.org.pl*

191. **Ракевіч Пав. Міх.**, 75 гадоў, дзеці: Павел, 45 гадоў, Міх., 25 гадоў, І., 19 гадоў, жонка Паўла, 40 гадоў, унук Сям., 15 гадоў, Алд., 11 гадоў, Ант., 8 гадоў, Вера, 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

192. **Ракевіч Іл**. з сям'ёй. Прыехалі з вёскі Галынка. Часова спыніліся ў Ніжнім Нікалаеўску.

193. **Ракевіч Сідар Міх.**, 52 гады, жонка Нат., 47 гадоў, дзеці: Павел, 16 гадоў, Надзя, 9 гадоў. Прыехалі з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

194. **Ракевіч Ст. Міх.**, 59 гадоў, жонка Гл., 40 гадоў, дзеці: Кас., 15 гадоў, Ігн., 9 гадоў, Ант., 5 гадоў. Прыехалі з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

195. **Ракевіч Ан. Ігн.**, з ім прыехалі яшчэ 3 чалавекі. Усе — з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, ст. Літвінава.

196. **Ракевіч Ігнат Пятровіч,** з ім яшчэ 7 чалавек. Усе — з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, ст. Літвінава.

197. **Ракевіч Мак. Ів.**, з ім яшчэ 5 чалавек. Усе — з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, ст. Літвінава.

198. **Ракевіч Мрк. Ст.**, з ім яшчэ 4 чалавекі. Усе — з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, ст. Літвінава.

199. **Ракевіч Вера Віктараўна**, з ёй яшчэ 1 чалавек. Прыехалі з вёскі Клепачы. Часова спыніліся ў Раманаўскай воласці.

200. **Рачко Мар.**, 18 гадоў. Прыехаў з вёскі Варонічы. Часова спыніўся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

201. **Ражко Яўг**. з вёскі Вострава. Часова спыніўся ў Ніжнім Нікалаеўску.

202. **Ракевіч Ал. Л**. з Клепачоў. Спыніўся (спынілася) у горадзе Багатол.

203. **Ракевіч Сяргей Як**. з жонкай з Клепачоў. Спыніўся ў горадзе Багатол.

204. **Равенка Алд**. з жонкай з Шылавіцкай воласці. Часова спыніліся ў Татарску.

205. **Саламевіч Фёдар Пятровіч**, 62 гады, жонка Мар., 60 гадоў, дзеці: Гр., 36 гадоў, Алд., 18 гадоў, Фёк., 14, жонка Гр., Фёкла, 34 гады, унукі: Ів., 13 гадоў, Міх., 11 гадоў, Ст., 6 гадоў, Мік., 8 гадоў. Прыехалі з вёскі Пераналока. Часова спыніліся ў Томскім павеце, у вёсцы Баранава.

206. **Саламевіч Алс. Ф.**, 27 гадоў, жонка Фёкла. Сын Гр., 6 гадоў, маці 50 гадоў — усе з вёскі Пераналока. Часова спыніліся ў Томску.

207. **Саламевіч Гр. Гр.**, 39 гадоў, жонка Алена, 37 гадоў, дзеці: Гр., 4, Алд, 1 год, маці Гр., 70 гадоў. Прыехалі з вёскі Вялікая Кракотка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, у вёсцы Зыранка.

*Працяг у наступным нумары*

Публікацыя ● ***Сяргея Чыгрына***

# Васіль Струпавец

Восенню 2017-га на могілках у вёсцы Якімавічы Слонімскага раёна ўсталявалі помнік на магіле Васіля Струпаўца. На ім надпіс: *"Васіль Васільевіч СТРУПАВЕЦ 1928 — 2000*

*Беларускі патрыёт, актывіст БНФ "Адраджэнне". Ён быў сведкам злачынстваў лясных бандытаў над мірным насельніцтвам, выжыў пасля расстрэлу яго сям'і ў красавіку 1943 года. Аж да самай смерці шукаў праўды і справядлівасці, дамагаўся суду над злачынцамі".*

"СК" неаднаразова пісаў пра "Якімавіцкую справу" і пра расстрэл сям'і Струпаўца, будзем вяртацца да гэтай тэмы і ў будучым. Дагэтуль невядома, чым кіравалася камандаванне савецкага партызанскага атрада імя Панамарэнкі, калі расстрэльвала мірных жыхароў, нават дзяцей. Васіль Струпавец выжыў пасля расстрэлу, але быў скалечаны кулямі, стаў інвалідам. Ён сведчыў, што ў яго, у яго бацькоў, братоў і маленькую сястру страляў з ручнога кулямёта камандзір атрада Іван Зайцаў, з вінтоўкі — Іван Багуслаўскі. Абодва пасля вайны жылі ў Слоніме.

Струпавец успамінаў: "*Штурхнулі бацьку і нас, дзяцей, у вугал. — К стенке! — крычаць. Пазаганялі. Адным словам, уцякаць няма куды, бо там акна не было… Сталі мы развітвацца… Я яшчэ сказаў: — Тата, ды яны шуцяць. — Сынок, бандыты не шуцяць…, — адказаў бацька.*

*…Зайцаў стрэліў раз і нешта заеў кулямёт. Патухла святло. Бацька кінуўся на кулямёт, але стрэліў Багуслаўскі — трапіў*



***Васіль Струпавец, 1997 г. Фота Віктара Валадашчука, апублікаванае ў "ГС".***

*бацьку ў лоб… І з кулямёта пайшлі па нас, па ўсіх… Так вось маме разрыўная трапіла ў галаву, некалькі трапіла ў мяне. Пасля даведаўся, што іх было пяць".*

Па словах Струпаўца, параненых дабівалі, ударылі прыкладам і яго. Пасля партызаны абрабавалі хату, падпалілі салому, паперу на падлозе і пайшлі. "*Пускай б… коптятся*", — сказаў адзін з іх.

"*Нейкім чынам я вылез,* — успамінаў Струпавец. — *Хацеў падымацца, але не мог. Дапоўз да агня, левай рукой раскідаў паперу, патушыў агонь рукамі. Апёк іх. Дапоўз да дзвярэй, адкрыў іх. Ужо поўная хата дыму была. Вылез я на ганак. Хацеў ісці, але не змог*".

Аднавяскоўцы адвезлі параненых Васіля і яго брата Аркадзя (пасля вайны ён падарвецца на міне) у Слонім у бальніцу, дзе ім выратавалі жыццё. Васіль Струпавец працаваў краўцом, жыў у нашым горадзе (з перапынкам, калі выязджаў у Расію). І ў савецкія часы, і ў часы незалежнай Беларусі яму так і не ўдалося дамагчыся суду над тымі, хто расстраляў яго сям'ю. Аднак дачакаўся, калі ў 1997 годзе, пасля першых публікацый, пра "Якімавіцкую справу" даведалася ўся Беларусь.

Адзначу, што грошы на помнік сабралі сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл.

●***Сяргей Ерш***




**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Ерш.***

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.